*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года   № 41 (529)   17 КАСТРЫЧНІКА 2001 г.

# Заява грамадскай ініцыятывы “За ўратаванне мемарыялу Курапаты”

Напрыканцы 80-х гадоў народу Беларусі адкрылася жудасная праўда аб масавых рэпрэсіях сталінскага рэжыму. Стала вядомым і адно з месцаў масавых расстрэлаў і пахаванняў ахвяр – урочышча Курапаты. Назва як сімвал памяці і болю аб бязвінна загінуўшых, бясследна зніклых.

Дзякуючы намаганням грамадскасці, даследаванням і публікацыі Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва, раскопкам археолагаў, сталя вядома, што ў 30-40-х гадах мінулага стагоддзя тут былі расстраляныя дзесяткі, а магчыма і сотні тысяч чалавек. Іх парэшткі ляжаць у сотнях курапацкіх магілаў. У 1988-1989 г.г. дзяржаўная камісія на чале з генеральным пракурорам Тарнаўскім пацвердзіла, што ў Курапатах бязвінныя **людзі былі знішчаны НКВД. Таму** ў 1993 годзе ўрочышча было занесена ў дзяржаўны рэестр гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, як “Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій у 30-40 гады XX стагоддзя”. Курапатам быў нададзены статус першай катэгорыі гістарычна-культурных каштоўнасцяў. Так дзякуючы народнай волі Курапаты сталіся Нацыянальным някропалем – адной з галоўных памятных мясцінаў нашага народу.

На жаль, былі і ёсць у Беларусі сілы, якія хацелі б абвергнуць гэтую праўду, абяліць сталінскі рэжым і яго злачынствы. Яны спрабавалі даказаць, што ў Курапатах знаходзяцца рэшткі ахвяр фашыстоўскага рэжыму. Створаная іх намаганнямі чарговая камісія правяла ў 1998-1999 г.г.новае расследванне. Аднак вынікі яго засакрэчаны дагэтуль. Ці не таму, што яны не адпавядаюць заказной версіі?

Сёння зноў узнікла небяспека страціць наш Нацыянальны някропаль – Курапаты. Распачата пашырэнне менскай кальцавой дарогі, якая можа знішчыць магілы бязвінна забітых. Будаўніцтва ў раёне Курапатаў пачалося раней запланаванага тэрміну (работы планаваліся на 2003-2005 гг.), без усялякага грамадскага абмеркавання прапанаванага варыянту рэканструкцыі. Будаўнікі ігнаруюць неабходны ў такім выпадку нагляд з боку спецыялістаў і археолагаў Інстытута гісторыі Нацынальнай акадэміі навук Беларусі і нават элементарную тэхніку бяспекі. Земляныя работы вядуцца вельмі паспешліва, практычна без чарцяжоў на рабочай стадыі і без праекту арганізацыі будаўнічых работ. У выніку пачатай будоўлі была закранута паляна перад Крыжам Пакуты, якая не павінна была паводле папярэдняга праекту, быць уключанай у зону будаўніцтва дарогі.

Каб не дапусціць руйнавання могілак, на шляху бульдозераў сталі маладыя хлопцы і дзяўчаты з “Маладога фронту”, “Еўрапейскага шляху” і іншых моладзевых арганізацый.

Дзеля вырашэння гэтага канфлікту, дзеля абуджэння народнай маральнай энэргіі ў абароне Нацыянальнага някропалю мы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, палітычных партый, прафсаюзаў, навукоўцаў, інтэлігенцыі аб’ядналіся ў грамадскую ініцыятыву “За ўратаванне мемарыялу Курапаты”.

Мы патрабуем:

1. Тэрмінова спыніць будаўніцтва дарогі ў раёне Курапатаў. Правесці дадатковыя археалагічныя даследаванні ў прыдарожнай зоне.

2. Пачаць неадкладны публічны дыялог адказных дзяржаўных структур з прадстаўнікамі грамадскай ініцыятывы “За ўратаваннне мемарыялу Курапаты”.

3. Рассакрэціць і абнародаваць вынікі расследвання ў Курапатах, праведзенага вайсковай пракуратурай ў 1998-1999 г.г.

4. У адпаведнасці са статусам помніка неабходна ўключыць у праект агароджу ўсяго урочышча Курапаты, добраўпарадкаванне яго тэрыторыі і стварыць належную ахову.

Пасля высвятлення сітуацыі мы складзём план доўгатэрміновай працы дзеля ўратавання Курапатаў, дзеля прыцягнення ўвагі ўсіх жыхароў Беларусі да асэнсавання таго, што адбылося з нашым народам у XX стагоддзі, каб такое больш ніколі не паўтарылася. Будзем памятаць – значыць, не паўторым.

Грамадская ініцыятыва “За ўратаванне мемарыялу Курапаты” лічыць сваім святым абавязкам абарону ад пагрозы знішчэння і руйнавання не толькі Курапацкі нацыянальны някропаль, але і ўсе помнікі і мемарыялы нашай краіны.

**Падпісаліся:**

**Алесіна Таццяна,** грамадскае аб’яднанне “Маладая грамада”;

**Андросік Ларыса,** грамадскае аб’яднанне “Дыярыюш”;

**Арлоў Уладзімір,** пісьменнік;

**Арэшка Вацлаў,** грамадская ініцыятыва “Культурны кантакт”;

**Барадулін Рыгор,** народны паэт Беларусі;

**Быкаў Васіль,** народны пісьменнік Беларусі;

**Быкаў Генадзь,** Свабодны прафсаюз беларускі;

**Ваўчок Леанід,** Беларускае грамадскае аб’яднанне ахвяраў палітычных рэпрэсій 20-80-х гадоў;

**Бяляцкі Алесь,** рабочая група Асамблеі НДА;

**Вольскі Артур,** паэт;

**Вячорка Вінцук,** БНФ “Адраджэнне”;

**Ганчарык Уладзімір,** Федэрацыя прафсаюзаў беларуская;

**Гарэцкі Радзім,** акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук;

**Гілевіч Ніл,** народны паэт Беларусі;

**Грахоўскі Сяргей,** паэт, вязень сталінскіх лагераў;

**Гутман Якаў,** Сусветнае згуртаванне беларускіх габрэяў;

**Жыхар Ірына,** грамадскае аб’яднанне “Беларуская арганізацыя працоўных жанчын”;

**Кароль Аляксей,** фракцыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі “За адзінства”;

**Кляшторная Мая,** суполка “Мартыралог Беларусі” Таварыства беларускай мовы;

**Крыленка Валеры,** Менская арганізацыя прафсаюзу работнікаў лёгкай прамысловасці;

**Ліцвіна Жана,** Беларуская асацыяцыя журналістаў;

**Ліцвін Аляксей,** гісторык;

**Лыч Леанід,** гісторык;

**Мамонька Уладзімір,** Менская арганізацыя прафсаюзу работнікаў культуры;

**Марачкін Аляксей,** мастак;

**Мацкевіч Сяргей,** грамадскае аб’яднанне “Цэнтр Супольнасць”;

**Паўлаў Анатоль,** Менская арганізацыя прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі;

**Севярынец Павел,** грамадскае аб’яднанне “Малады фронт”;

**Супрановіч Віталь,** грамадская ініцыятыва “Беларуская музычная альтэрнатыва”;

**Трусаў Алег,** грамадскае аб’яднаннне “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”;

**Трыгубовіч Валянціна,** міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Беларуская перспектыва”;

**Фралоў Аляксей,** згуртаванне беларускай моладзі “Еўрапейскі шлях”;

**Церахаў Яўген,** беларуская экалагічная партыя зялёных “Бэз”;

**Шалайка Аляксандр,** выканаўчае бюро Асамблеі НДА;

**Шэрман Карлс,** пісьменнік;

**Шушкевіч Станіслаў,** Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада.

Грамадская ініцыятыва “За ўратаванне мемарыялу Курапаты” адкрыта для далучэння новых паплечнікаў.

**Кантактны тэлефон: 206-59-09.**



Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Андрэй Волчак (Польшча) – 20 DM
2. Наталля Жучкова (Менск) – 15000 руб.
3. Генадзь Бяда (г. п. Парычы) – 1000 руб.
4. Кобрусеў Лявон (Менск) – 5860 руб.
5. Людміла Піскун (г. Мазыр) – 15000 руб.
6. Фелікс Шкірманкоў (г. Слаўгарад) – 5000 руб.
7. Васільчанка Мікола (Менск) – 1000 руб.
8. Нароўская Ала (Менск) -- 5000 руб.
9. Навуменка Валянціна (Менск) -- 8790 руб.
10. Сарнаў Анатоль (Слуцк) -- 1000 руб.
11. Удзельнікі вечарыны, прысвечанай юбілею Ніла Гілевіча (Менск) -- 23305 руб.

Асобна Сакратарыят ТБМ і рэдакцыя газеты “Наша слова” выказваюць падзяку **Федэральнай радзе беларускіх арганізацыяў Аўстраліі** за ахвяраванне **357577** бел. рублёў, што эквівалентна 250 дал. ЗША.

**Друк гэтага нумара газеты “Наша слова” аплачаны з грошай, дасланых Федэральнай радай беларускіх арганізацыяў Аўстраліі.**

# Прэзентацыя "Сноў імператара"

9 кастрычніка ў гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы ў Менску адбылася прэзентацыя кнігі У. Арлова "Сны імператара".

Сустрэча пачалася словамі Алега Трусава – старшыні ТБМ, якое спрычынілася да выдання кнігі, і добрага сябры пісьменніка. Ён расказаў пра выхад кнігі ў свет, што яе выдала выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў серыі "Беларуская проза". Кніга "Сны імператара" мае добрае афармленне. Кнігі Арлова перакладаюцца і выходзяць на розных мовах. Найбольш цікавыя апавяданні "Тры мужы спадарыні Дамінікі", "Мой радавод або спроба пакінуць выгнанне". Алег Трусаў адзначыў, што кожны чалавек павінен ведаць свой радавод, сваю гісторыю, каб не паўтарыць памылак, якія зрабілі нашы продкі. Чалавек увесь час творыць гісторыю. Ён пажадаў поспехаў У. Арлову ў далейшым мастацкім асвятленні гісторыі Беларусі.

Пасля адбылося выступленне менавіта самога пісьменніка і паэта, якое пачалося чытаннем аўтарскага верша "Спроба завершанага жыццяпісу". Потым аўтар перайшоў непасрэдна да сваёй творчасці, ён пералічыў свае кнігі, якія ўжо выйшлі з друку. А таксама выказаў падзяку ТБМ за дапамогу ў выданні кнігі, вельмі ўдзячны мастаку Рыгору Сітніцы і Арлену Кашкулевічу, якія аформілі некалькі ягоных кніг.

Затым Арлоў зачытаў адказы на пытанні анкеты аднаго з недзяржаўных выдавецтваў. Таксама быў зачытаны ўрывак з апавядання "Ордэн белай мышы", якога яшчэ пакуль няма ў друку.

Потым адбыліся вельмі добрыя дыялогі з прысутнымі ў зале. Пісьменнік адказаў на ўсе пытанні. Зараз ён працуе над кнігай "Чалавек вандроўны" у якую ўвойдуць падарожныя эсэ.

Скончылася гэтая сустрэча вершам "У спакоі тваіх вачэй..."

*Ірына Секяржыцкая.*

# Пра масавасць і элітнасць

4 кастрычніка 2001 года ў Горадні адбыўся справаздачна-выбарчы сход Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Справаздачу трымала Данута Бічэль. На сходзе прысутнічала старшыня Саюзу беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава. Акрамя сяброў Саюзу на сходзе было шмат гарадзенскіх літаратараў, якія не ўваходзяць ні ў якія саюзы, і некалькі сяброў Таварыства вольных літаратараў. Таму гаворка на сходзе адразу ж набыла даволі вострый характар: ад, ці патрэбен Саюз наогул, да неабходнасці развіцця Саюзу ў моцную, у тым ліку і эканамічна моцную, структуру.

З мноства думак можна вылзеліць дзве пазіцыі: гарадзенскую, якую праводзілі частка сяброў Саюзу і сябры ТВЛ, і якая палягае ў праве на існаванне толькі элітнай, высокамастацкай літаратуры і выдання высокамастацкіх кніг па змесціу і форме, і лідскую пазіцыю, якую рэпрэзантаваў Станіслаў Суднік, якая палягае на масавасці літаратуратворчага працэсу з правам публікацыі практычна ўсіх, хто піша, з перспектывай таго, што з соцень самадзейных паэтаў і пісьменнікаў выявяцца тыя майстры слова, якія пазней стануць літаратурнай элітай.

Адказу на пытанне, чыя пазіцыя больш правільная, не шукалася. Аднак вынікам розных падыходаў з'яўляецца тое, што сёння, калі Лідскі гістарычна-мастацкі музей прыступіў да падрыхтоўкі літаратурнай экспазіцыі, спіс паэтаў і пісьменнікаў, якія пісалі і пішуць у Лідзе, даўно перасягнуў сотню. Разам з тым у гарадзенскім сходзе прынялі ўдзел толькі трынаццаць сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх не аказалася нікога, хто мог бы скласці альтэрнатыву Дануце Бічэль, хоць незадаволенасці дзейнасцю абласнога аддзялення было шмат. Гэтую незадаволенасць, у тым ліку, выказвала і Вольга Іпатава, але ў Горадні на сёння няма нікога, хто мог хоць бы наблізіцца па значнасці для беларускай літаратуры да Дануты Бічэль. Вось і ўся эліта. Сямю галасамі супраць шасці Данута Бічэль абрана сакратаром абласнога аддзялення на наступны тэрмін.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Мэр Менска паабяцаў беларусам гімназію

На пачатку кастрычніка мэр Менска Міхаіл Паўлаў даў інтэрвію карэспандэнту "Народнай волі", у якім былі закрануты пытанні беларускасці. Вось вытрымка з яго:

***-- Вы ўжо адчулі сябе менчанінам?***

*-- Я--беларус. І ганаруся гэтым.*

***-- Ці абазначае гэта, што пры Паўлаве Менск стане больш беларускім горадам? Усе шыльды будуць на беларускай мове, з'явяцца помнікі нацыянальным героям?***

*-- Наконт шыльдаў я ўжо неаднаразова гаварыў сваім падначаленым: з'ездзіце ў Францыю, у Польшчу, у Расію і знайдзіце там хоць адзін надпіс на беларускай мове. Не знойдзеце. Мы -- беларусы. І не павінны пра гэта забывацца ні пры якіх абставінах.*

***-- А Вам, беларусу, не сорамна, што ў сталіцы з школаў практычна знікла беларуская мова. Напрыклад наш галоўны рэдактар хацеў аддаць унука ў беларускі клас. Яму давялося падняць на ногі не аднаго чыноўніка, каб у гімназіі адкрылі АДЗІН беларускі клас! Не трэба толькі гаварыць, што бацькі не хочуць, каб іх дзеці вывучалі беларускую мову...***

*-- Да наступнага навучальнага года ў Менску адчыніцца вялікая беларуская гімназія. Я, дарэчы скончыў беларускую школу. Добра размаўляю па-беларуску. Калі ў інстытут паступаў, на экзамене па матэматыцы нават прасіў, каб мне тэкст задання пераклалі з рускай на беларускую. Баяўся памыліцца...*

Безумоўна, мы павінны вітаць такія намеры менскага мэра. Але мы і павінны разумець, што гэтая гімназія, калі яе нават і дазволяць стварыць, будзе ўсяго той жа беларускамоўнай шыльдай на цалкам рускамоўным будынку менскай гарадской адукацыі.


МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
**УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ**
220006, г. Мінск, Маякоўскага 22, к.2. Тэл. 221-76-51

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
**УПРАВЛЕНИЕ КУЛЬТУРЫ**
220006, г. Минск, Маяковского 22, к.2. Тел. 221-76-51

№20/863 от 2.10.2001 на № 21

Менская гарадская арганізацыя
Грамадскага аб'яднання "Таварыства
беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13

Паведамляем, што пытанне візуальнага аблічча сталіцы будзе разгледжана на чарговым пасяджэнні камісіі па найменаванню і перайменаванню вуліц і плошчаў г. Менска.

**Начальнік упраўлення В. І. Кураш.**

# На курсах беларускай мовы пры ТБМ імя Ф. Скарыны пачаўся новы навучальны год

З 1 кастрычніка на Румянцава, 13 аднавілі заняткі па беларускай мове група спн. Станіславы Філіповіч, якая працягвае навучанне з мінулага года. Заняткі, як і летась, будуць праводзіцца штопанядзелак а 19-й гадзіне.

Усе, хто жадае навучыцца беларускай мове альбо ўдасканаліць свае веды, звяртайцеся ў сядзібу ТБМ на Румянцава, 13 па тэлефоне 84-85-11 з 9 да 19.00. Пры наяўнасці дастатковай колькасці навучэнцаў, будуць сфармаваныя і пачнуць заняткі новыя групы (як пачатковыя, так і па культуры мовы).

**Сакратарыят ТБМ.**

# Школьнае папаўненне

Небывала вялікае папаўненне атрымаў у гэтым годзе выкладчыцкі калектыў віцебскай сярэдняй школы № 31. Адразу больш дваццаці выпускнікоў Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава ўвайшлі ў вучэбныя класы.



На здымку: урок беларускай мовы вядзе Наталля Мялешка.
**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

# Магазін "Акадэмічная кніга" прапануе:

**Цітоў В.С. Этнаграфічная спадчына: Беларусь: Краіна і людзі.** – 2-ое выд. – Мн.: Беларусь, 2001. – 208 с.: іл.

Кніга дае асновы этнаграфічных ведаў пра беларускі народ (этнас) і яго старажытную культуру. Першая частка знаёміць чытача з асноўнымі паняццямі ў этнаграфіі, асабліваццямі этнагенезу і этнічных працэсаў на Беларусі, з яе геапалітычным становішчам і этнічнай тэрыторыяй, а таксама з міжэтнічнымі сувязямі і стасункамі з суседзямі (руская, палякі, украінцы, літоўцы) і іншымі народамі (яўрэі, татары, цыганы), што здаўна пражывалі на Беларусі. Гісторыка-культурная спадчына розных краёў-рэгіёнаў адрозніваецца багатымі фарбамі і паўстае перад намі як жывое дрэва, вечна жывая крыніца народнай творчасці і духоўнай энергіі. Асобная ўвага ўдзяляецца беларускаму замежжу.

Кошт – 3380 рублёў.

**Цітоў В.С. Этнаграфічная спадчына: Беларусь: Традыцыйна-бытавая культура.** – 2-е выд. – Мн.: Беларусь, 2001. – 207 с.: іл.

Кошт – 3380 рублёў.

**Гульні, забавы, ігрышчы.** (Склад. А. Ю. Лозка. –2-е выд. – Мн.: Беларуская навука, 2000.- 534 с.

Кошт – 1235 рублёў.

**METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.** Том І – Мн.: Athenaeum – Аддзел спецыяльных гістарычных навук ІГ НАНБ, 2001.

Кошт – 3900 рублёў.

**Крывальцэвіч М. Археалягічныя адкрыцці сьвету.** – Мн.: .: Athenaeum, 2000 – 124 с.

Кошт – 3200 рублёў.

**Мележ І. Выбраныя творы** / І.Мележ; уклад., прадм. І камент. С.Андрэюка – Мн.: Беллітфонд, 2001. – 576 с.: іл. - (Беларускі кнігазбор: мастацкая літаратура).

Кошт – 2921 рубель.

Наш адрас: 220012, г. Менск, пр. Ф. Скарыны, 72.
Тэл. 232-50-43, тэл/факс 232-00-52

Працуем з 10.00 да 19.00 гадзін
Субота з 10.00 да 18.00 гадзін
Нядзеля – выхадны.
**Заўсёды рады сустрэчы з вамі.**

**Старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алегу Трусаву**

Вялікі дзякуй за віншаванні для кафедры беларускай філалогіі ў сувязі з 45-годдзем яе існавання. Ваш водгук быў асабліва мілы нашым сэрцам з тае прычыны, што, як Вы, таксама і мы служым той самай прыгожай ідэі абароны беларускай мовы, як адзінай мовы дзяржаўнай, ды суверэнітэту і незалежнасці Беларусі, як дзяржавы вольнай сярод вольных краін свету.

З найлепшымі пажаданнямі і прывітаннямі для ўсіх дзеячаў і прыхільнікаў Вашай арганізацыі.

**Загадчык КБФ Варшаўскага універсітэта праф. Аляксандр Баршчэўскі.**





Алесь Петрашкевіч

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Сатырычная камедыя)

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары)*

**ЮЗАФ.** Грошы на бочку, спадар Ахмет. *(Да Янкеля Янкелевіча.)* Паспрабуй шчасця, пан гувняж!

*Ахмет накіроўваецца да сваёй кватэры па грошы.*

**ЯНКЕЛЬ.** Ой вэй, адкуль у беднага гувняжа такія грошы? Быць панам гувняжом – гэта не тое, што быць панам гіцлем, у якога што ні сабака, то мільён. Хіба рызыкну толькі за кумпанію, як вы кажаце, на адзін мільёнчык, бо ворагі мае і так пасінеюць ад зайздрасці, калі я выйграю.

*Юзаф Тадэвуш кідае Янкелю карту і бярэ сабе.*

**ЮЗАФ.** Адну?.. Дзве?

**ЯНКЕЛЬ.** Янкель – сціплы чалавек. Янкелю хопіць і дзвюх. *(Са страхам правярае карты).*

**ЮЗАФ.** Не бойся, Янкель, з дзвюх карт больш дваццаці аднаго не будзе!

**ЯНКЕЛЬ** *(з сумам).* А Янкель і не баіцца, бо ў Янкеля якраз дваццаць адно і ёсць.

*Прысутныя бурна рэагуюць на чужую ўдачу.*

*(З жалем).* Во каб ведаць, бедны Янкель меў бы зараз кучу грошай, а не шыш без масла *(Адлічвае свой мільён і хавае пад капялюш).*

**ЮЗАФ.** Жычэння складам, але не зайздрошчэ... *(Да Тараса).* Пан акалотачны?!

**ТАРАС.** На ўсё!

*Юзэф Тадэвуш бярэ сабе і кідае карту партнёру.*

**ТАРАС.** Шчэ адну! *(Падглядае карты. Задаволена).* Сабе, пан Пілсуцкі...

**ЮЗАФ** *(бярэ сабе, хітра пасміхаецца).* Адкрывай, пан калабарант.

**ТАРАС** *(як пераможца).* Дваццаць! Можаш убязіцца...

**ЮЗАФ** *(паказвае карты).* Проша пана, дваццаць адно...

**ІВАН.** Я сейчас! *(Знікае за дзвярыма сваёй кватэры).*

**ТАРАС** *(крычыць).* Іван, прыхапі мне ў доўг! *(Са страхам).* Прахвост! Што ж міне жонка скажа?!

*Юзаф Тадэвуш кідае Тарасу ў твар пальчатку. Той нічога не разумее.*

А што гэта ты тут абноскамі кідаешся? Бо я магу і ботам запусціць!..

**ЮЗАФ.** За прахвоста будзем страляцца на дуэлі!

**ТАРАС.** Гэта што, як Пушкін з Лермантавым? І з чаго ж ты будзеш страляць, галацыца?! *(Глядзіць у канец Юзафавага парасона.)* Прахіндзей ты, Пшэляхавіцкі. Каб страляцца, трэба, як мінімум, мець дула, а ў цябе там шпунт. *(Вяртае парасон).*

*Вяртаецца Іван Іванавіч і кідае на стол дзесяць пачак грошай і яшчэ адлічвае чатыры мільёны.*

**ІВАН.** Это за Тараса.

**ЮЗАФ.** Ваша стаўка, пане товажыш сакрэтаж партыйны.

**ІВАН.** Я же русским языком сказал, банкую! На двести восемь миллионов иду...

*Твары карцёжнікаў выцягваюцца. Напружанне дасягае апагею. Іван Іванавіч забірае ў Юзафа Тадэвуша карты, тасуе калоду, зноў вяртае яе Юзафу. Той просіць Янку-нямко зняць калоду. Янка здымае і аж вішчыць ад нецярпення. Юзаф асцярожна, нібы яна шкляная, кладзе карту перад Іванам Іванавічам, бярэ сабе.*

Карту!.. *(Правярае, думае.)* А-а-а! Трусы в карты не играют! Давай еще одну! *(Правярае. Спакойна і нават абыякава.)* Перебор, но я игру не кончаю. *(Адлічвае дваццаць восем пачак і яшчэ восем мільёнаў).*

*Вяртаецца Ахмет і кідае на стол пяць пачак. Юзаф Тадэвуш парасонам падграбае грошы да кучы. Усім адняло мову, як таму Янку, які бегае вакол стала і верашчыць ад здзіўлення і задавальнення. Ён нават разрывае адну пачку грошай і глядзіць купюру на святло, ці ёсць на ёй вадзяныя знакі.*

**ЮЗАФ.** У банку пяцьсот кавалкаў. *(Да Янкі).* Ну, Нямко, паспрабуй жа і ты сваё тутэйшае шчасце назло яцвягу і маскалю!

**ТАРАС** *(амаль крычыць).* Ты за каго нас дзержыш, палячок?! Гэны Нямко голы, як бізун! А ты яму – банкаваць?! На такую суму?!

**ІВАН.** Действительно!

**ЮЗАФ.** А я закладваю за Янку далярамі па курсу! *(Вымае з кішэні грошы, але не кладзе на стол.)* Банкуй, няшчасны! *(Тлумачыць на пальцах, каб той ставіў на ўвесь "банк").*

*Янка і верашчыць, і мычыць, і стогне. Юзаф дае яму карту і бярэ сабе. А ён просіць яшчэ адну, другую і трэцюю. Нейкую хвіліну лічыць ачкі, потым ускоквае з-за стала і пачынае кожнаму тыцкаць картамі пад нос.*

**ТАРАС.** У яго ж дзейсьцвіцельна дваццаць адно!

**ЮЗАФ.** Забірай, Нямко, дурныя грошы!

*Янка губляе прытомнасць і паволі падае на падлогу. Раптоўна гасне святло. І адразу ж пачынаецца нейкая валтузня, сапенне, візгат, бы сабакі грызуцца. Чуваць асобныя рэплікі.*

**ІВАН.** Кто вырубил свет?

**АХМЕТ.** Кімде сернік бар? У каго ёсць сернікі!?

**ЯНКЕЛЬ.** Сапраўды цёмна, як у негра ў ...

**ТАРАС.** А дзе гарэлка?!

**АХМЕТ.** Дык і грошай няма!.. *(Крычыць.)* Манча бурджуньы! Няверныя, заклінаю імем Валлага, вярніце мае грошыкі!

**ЯНКЕЛЬ.** Ой вэй! Хто ў сапог, а хто ў галёшы!

*Адны за другімі ляпаюць дзверы, на імгненне асвятляецца сцэна і ўсё заціхае. З'яўляецца слабое святло. Яно і высвечвае на сцэне толькі Юзафа Тадэвуша і Янку-Нямко. Юзаф стаіць бы манумент самога Монтэ Крыста. А Нямко ёсць Нямко. Ён і разгублены, і раздушаны яшчэ адной магчымасцю разбагацець, якой не суджана было збыцца. З носу ў яго цячэ кроў і ён далонню размазвае яе па твары.*

**ЮЗАФ** *(голасам манумента).* Не журыцеся, спадар Нямко. Я кампенсую табе няўдачу. Там тэго заінцэго гувна до холеры. *(Глядзіць на няшчаснага).*

Святло паволі згасае.

### ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Раніца. Тая ж пляцоўка. Янка-нямко мые падлогу. Галава яго праз лоб абвязана бел-чырвона-белай стужкай ад падранага ў першай дзеі сцяга. З сваёй кватэры выходзіць Тарас Тарасавіч. Ён у афіцэрскай міліцэйскай форме пры маёрскіх пагонах. Пры ім дубінка, зброя, мабільны міліцэйскі тэлефон.*

*Ідзе да дзвярэй Янкеля Янкелевіча, рэзка стукае ботам, хоць ёсць кнопка ад электразванка. З'яўляецца перапалоханы гаспадар у споднім.*

**ЯНКЕЛЬ.** Ой, дарагі таварыш маёр, шолам алейхем, але ці ж так можна палохаць суседзяў?! У мяне ж не толькі музыкальны слых, але і музыкальны званок. *(Націскае на кнопку – чуваць мелодыя: "Люблю наш край, старонку гэту".)* Я не думаю, што вам гэта не нравіцца...

**ТАРАС** *(строга і сурова).* Бяры зэдлік, музыкант, і садзіся напроціў. Я цібя дапрашываць буду, афіцыяльна і беспрыстрасна!.. Кацігарычаскі!..

**ЯНКЕЛЬ** *(не вельмі спалохаўшыся).* Што-небудзь сур'ёзнае, ці зноў будзеце куражыцца з беднага габрэя, хоць я вашы мільёны не браў, а свой апошні загубіў. А калі проста так, то сёння вам не тыя часы, калі бралі габрэя і садзілі на зэдлік, які стаяў уверх ножкамі...

**ТАРАС.** Не губляй врэмя, бо я сказаў, што не ў дымыно гуляць прыглашаю. *(Садзіцца на сваю круцелку і круціцца, як касманаўт на трэніроўцы).*

*Тым часам Янкель ідзе ў сваю кватэру, вяртаецца апранутым і з зэдлікам у руках. Садзіцца насупраць Тараса Тарасавіча, чакае, пакуль той уважліва разглядае яго, нібы першы раз у жыцці бачыць.*

**ЯНКЕЛЬ.** Не трэба Янкеля разглядаць, як карціну. Янкель даўно зразумеў ваш антысеміцкі погляд. І калі на Янкеля нехта нешта зноў накляпаў, гэта зусім яшчэ не азначае, што ён вінаваты, і што яму трэба рабіць чарговы савецкі пагром.

**ТАРАС.** Мне паказалася, што на этат раз Янкель сам накляпал на саседа.

**ЯНКЕЛЬ.** Гэта яшчэ трэба даказаць.

**ТАРАС** *(дае Янкелю паперку).* Вось этат данос бэз подпісі я зверыў з вашай заявай на антысеміта з пятага пад'езду. Почырк сходзіцца, как дзве кроплі гарэлкі. Так што не саветую атпірацца. Ты ў міня ў торбе, яку асталася толькі завязаць.

**ЯНКЕЛЬ** *(вяртае паперу).* А што, габрэй ўжо не можа напісаць заяву на антысеміта? Між іншым, той самы антысеміт, не гледзячы на штраф, які вы да гэтага часу з яго не спагналі, пры сустрэчы, як і рапней, заўсёды кажа: здастві, жыдок Янкель.

**ТАРАС.** Он і дальша будзет так здароваться, бо то расейскі, а не тутэйшы анціссміт. І ты, будзь ласкавы, не адхіляйся ад цемы, а атвечай как перад судом: чаму не падпісал ананімку на сабакара Юзэфа Тадэвуша Пшэляхавіцкага?

**ЯНКЕЛЬ.** Таму, што ён мне, як, між іншымі, і вам сусед, друг, таварыш і брат... па інтэрнацыяналу. А калі б я падпісаўся, то стварыў бы сам сабе яшчэ аднаго антысеміта. Гэта вам, не габрэям, лёгка пісаць ананімкі. Вам ніхто не скажа: здраствi, жыдок Янкель. А Юзаф Тадэвуш жыве не па сродках і гэта відаць апошняму ёлупу, не кажучы ўжо пра вас. Піць кінуў, сабак лавіць перастаў, вярнуў жонку, дзеці ходзяць у школу, адзеўся з іголачкі, сцены абвешаў дыванамі, падлогу ўслаў паласамі, збіраецца купіць машыну. Гэта што, нармальна?! Каб пан гіцаль пералавіў і пералупіў усіх сабак не толькі ў нас, на Мар'інай Горцы, але і ў самім Менску, яму б не хапіла заробку, каб так жыць і так гуляць у карты, як вы самі бачылі на тым тыдні. *(Дражніць).* Банкуй, Нямко, на пяцьсот мільёнаў!.. У мяне заінцэго гувна до холеры.

**ТАРАС.** І как ты думаеш, дзе он бяроць гэна заячае гувно?

**ЯНКЕЛЬ.** Мая справа прасігналіць знізу. Ваша справа разабрацца зверху. Дзе бярэ? Можа рабуе, можа забівае, можа крадзе ў той самы час, калі чэсныя грамадзяне гэтай дурной краіны дайшлі да апошняй мяжы і ў хуткім часе тыя самыя павукі пачнуць заплятаць тое самае месца. Клянуся скруткамі торы, Янкель не мог больш цярпець гэту несправядлівасць да нашага інтэрнацыяналу.

**ТАРАС.** Маладзец! А січас погуляй хвілыну, але з хаты не выходзь. Лічы, што я ўзял з цібя падпіску о невыездзе.

*Янкель Янкелевіч ідзе ў сваю кватэру, а потым вяртаецца.*

*Янака-Нямко ідзе ў сваю кватэру і пачынае выносіць нейкія дзіўныя рамы і квадраты, і прамавугольнікі, і трохвугольнікі.*

**ЯНКЕЛЬ.** Таварыш Тарас Тарасавіч, вы ўжо Юзафу наконт майго сігналу.. А за мною не заржавее... Янкель умее аддзячыць добрага чалавека... калі ёсць за што.

**ТАРАС.** Калі ты будзеш правільна сябе вясці, то Тарас – магіла! Інтэрнацыянал Тарасу дарагі не менш, чымся цібе. Без інтэрнацыяналу са старшым братам і нам, і вам – хана перад ліцом міравога капіталу.

*Задаволены Янкель Янкелевіч знікае за дзвярыма. Тарас Тарасавіч грукочa да Юзафа Тадэвуша. Выходзіць гаспадар. Ён у дарагім замежным халаце. Спыняецца ў дзвярах, нешта ляніва жуе, з пагардаю ўсміхаецца.*

**ЮЗАФ.** А-а-а! Пан паліцыянт... Бардзо проша да гарбаты... *(Запрашае шырокім жэстам).*

**ТАРАС.** За гарбату дзенькую, а за паліцыянта ты ў мяне атрымаеш асобна і па ўсёй форме. Маёр Тарас не прашчает абраз. А зараз бяры свой храмы ўслончык і гэць бардзо за этат стол. Будзет возбуждзеніе крымінальнай справы і допрос как палoжэна!

*Юзаф забірае з сабою Янку-нямко і ляпае дзвярыма перад носам Тараса Тарасавіча. Той настойліва грукочa ў іх нагою. Дзверы зноў адчыняюцца. Янка вывозіць Юзафа ў дарагім фатэлі.*

**ЮЗАФ.** Слухам пана акалотачнага...

**ТАРАС** *(гучна).* Я і акалотачнага цібе не забуду! *(Садзіцца на сваю круцёлку, заплюшчвае вочы і круціцца. А калі адплюшчвае вочы, то бачыць перад сабою дарагі туфель Юзафа, бо ён дужа высока закінуў нагу за нагу. За спіной у яго ў ліўрэі паверх ватоўкі стаіць Янка).* Ух, і наглая парода... *(Бярэ са стала паперку.)* Гэта бланк ордэра на арэст з подпісам самога пракурора. Калі будзеш пагана сібя весці, упішу сюды тваю фамілію і пазаву канвой. *(Паказвае на тэлефон).*

**ЮЗАФ.** Вшыстко розумем, товажыш пан маёр.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Станіслаў Суднік

# Лідскія брандмуры ( брандмаўэры )

*У Лідзе маецца больш двух дзесяткаў будынкаў своеасаблівай архітэктуры: увесь дом драўляны, а адна сцяна мураваная. Гэтую сцяну тутэйшыя людзі называюць **брандмурам.** У літаратуры гэтыя сцены называюцца **брандмаўэрамі**. Успаміну пра брандмуры няма ні ў адной беларускай энцыклапедыі, няма ні ў падручніках па архітэктуры, ні ў кнігах па гісторыі архітэктуры. Разам з тым брандмур, нягледзячы на яго прастату, - важны і арыгінальны элемент гарадской забудовы. Брандмуры захаваліся ў многіх гарадах Беларусі (Менск, Горадня, Наваградак і інш.). Лідскі комплекс брандмуроў не з'яўляецца нечым унікальным,але ён ўяўляе сабой выдатную ілюстрацыю да тэмы гарадскога будаўніцтва канца XIX - пачатку XX стагоддзя. Адметнасць лідскіх брандмуроў у іх даступнасці і нагляднасці, іх шмат, размешчаны яны па ўсяму гораду, але сканцэнтраваны ў асноўным у трох раёнах горада: Зарэчча, Слабада, вул. Свярдлова і добра захаваліся. На сёння комплекс лідскіх брандмуроў выклікае безумоўную цікавасць. Тут мы можам назіраць усе асноўныя тыпы брандмуроў: брандмуры драўляных прыватных дамоў (класічныя, а, таксама з комінамі ўнутры), мураваныя будынкі з брандмурамі для аховы толькі страхі, драўляных склады у раёне вакзала з унутранымі брандмурамі і інш.*

З узнікненнем паселішчаў людзей узнікла і небяспека пажараў. У залежнасці ад тыпу гэтых паселішчаў небяспека пажараў была большая ці меншая. Пажарабяспечнасць паселішчаў залежала ад будаўнічага матэрыялу, які скарыстоўваўся ў паселішчы, ад шчыльнасці размяшчэння пабудоў і ад мераў бяспекі ў абыходжанні з агнём.

З узбуйненнем паселішчаў і развіццём у гарады пажары сталі для іх сапраўднай бядой. Летапісы і хронікі забітыя паведамленнямі пра пажары якія адбываліся амаль кожны год.

Людзі даволі хутка зразумелі, што не дапусціць распаўсюджаня пажару, магчыма, яшчэ важней, чым не дапусціць яго ўзнікнення.

Недапушчэнне распаўсюджання пажару магчымае шляхам прафілактычных мераў і шляхам тушэння. Паколькі ў старажытнасці магчымасці па тушэнні пажараў былі вельмі нязначныя і непараўнальныя з неабходнымі для ўтаймавання стыхіі агню, то на ранніх этапах гарадскога будаўніцтва асноўная ўвага ўдзялялася прафілактычным мерам. Пакуль гарады належалі каралям і князям, пра гэта дбалі каралі і князі, а калі еўрапейскія гарады атрымалі самакіраванне (магдэбургскае права), то праблема пажарнай бяспекі легла на магістраты гарадоў. Разам з тым каралі таксама не забываліся пра пажарную бяспеку і пры наданні таму ці іншаму гораду магдэбургскага права агаворвалі меры пажарнай бяспекі.

У прыватнасці пры наданні Лідзе Магдэбургскага права *(17 верасня 1590 года)* вялікім князем Літоўскім Жыгімонтам IV Вазай *(кароль польскі Жыгімонт III Ваза)* была агаворана, што ***"… Для бяспекі ад агню соладавы і піўзаводы павінны будавацца з боку ад горада. Для той жа бяспекі ад агню абавязковым усіх і кожнага асобна гараджан, каб муравалі і добра аздаблялі коміны". "...Для бяспекі лазня павінна быць пабудавана ў баку ад горада і не адзін жыхар не мае права будаваць уласную лазню каля свайго дома, але мы пастанавілі, што павінна быць толькі адна агульная лазня".***

Аналагічныя запісы былі ў прывілеях іншым гарадам, а таксама ў розных дакументах магістратаў.

Разам з тым асобнага супрацьпажарнага заканадаўства ў Вялікім Княстве Літоўскім не было. Нават апошні Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года не прадугледжвае ніякіх мераў па недапушчэнні пажараў. Усе "пажарныя" артыкулы Статута абмяжоўваюцца ўстанаўленнем парадку кампенсацыі стратаў, якія ўзнікаюць у выніку наўмыснага падпалу і ненаўмыснага пажару. Не было асобнага пажарнага заканадаўства і ў першай Рэчы Паспалітай да канца яе існавання і ўваходжання беларускіх зямель у склад Расейскай імперыі.

У Расеі пры яе агульным больш высокім грамадскім бязладдзі пажары былі яшчэ горшым бічам, чым у Еўропе. Масква часткова ці цалкам выгарала 60 разоў. У 1495 годзе быў выдадзены ўказ пра знос драўляных пабудоваў, якія знаходзіліся на адлегласці менш 100 сажняў (213 м) ад сценаў Маскоўскага крамля.

У Еўропе з 15-га стагоддзя, у ВКЛ з 16-га пачалі ўводзіцца абмежаванні на будаўніцтва ў гарадах драўляных дамоў. У Маскве спробы спыніць будаўніцтва драўляных дамоў, зрабіць шырыню вуліц 12 сажняў (1 сажань – 2,1336 м) і завулкаў 6 сажняў рабілася ў 17-стагоддзі. Пётр I забараніў будаўніцтва драўляных дамоў у Пецярбургу (пачатак 18-га стагоддзя).

Разам з тым дрэва было найбольш танным і даступным будаўнічым матэрыялам. Магістраты еўрапейскіх гарадоў, асабліва паўночна-германскіх, галандскіх, дацкіх, польскіх не маглі забараніць ужывання дрэва ў будаўніцтве. Але цесната еўрапейскіх гарадоў і вялікая пажаранебяспечнасць патрабавалі прыняцця жорсткіх мераў. У 17-м стагоддзі шырокае распаўсюджванне атрымоўваюць **брандмуры (брандмаўэры,** ням. **Brandmauer** ад **Brand** – пажар і **Mauer** – мур, мураваная сцяна), **мураваныя сцены, прызначаныя для раздзялення сумежных памяшканняў аднаго будынка, або двух сумежных будынкаў з мэтай перашкодзіць распаўсюджанню пажару**. Лічылася, што каменная сцяна павінна перашкодзіць перакідванню агню з аднаго будынка на другі. Каб павысіць эфектыўнасць брандмуроў іх рабілі так, каб брандмур значна перавышаў страху дома па вышыні, а таксама выступаў за плоскасці сценаў.

Масава брандмуры з'явіліся ў нашых гарадах даволі позна.

На тэрыторыю ВКЛ Магдэбургскае права прыйшло ў 1387 г. Большасць беларускіх гарадоў была на гэты час драўлянай. Гарады былі невялікія, значная частка іх не мела гарадскіх сценаў. Цесната не была крытычным фактарам. Прынамсі прывілеі на Магдэбургскае права 15-га і 16-га стагоддзяў не адлюстроўваюць праблемы гарадской цеснаты.

У сярэдзіне 17-га стагоддзя большасць беларускіх гарадоў была спалена ў ходзе вайны з Расеяй, паўторна значная частка гарадоў была спалена ў час Паўночнай вайны (пачатак 18-га стагоддзя). Таму праблема цеснаты (шчыльнасці засялення) ў беларускіх гарадах пачала ўзнікаць з сярэдзіны 18-га стагоддзя. З гэтага часу супрацьпажарная бяспека становіцца важнай праблемай гарадскога жыцця. У гэты час і ў Рэчы Паспалітай і ў Расеі пачынаюць уводзіцца розныя супрацьпажарныя меры, у тым ліку і прапрацоўваецца пытанне мінімальных адлегласцяў паміж дамамі і, як выйсце, ўводзяцца брандмуры паводле ўзору германскіх гарадоў. Але паколькі пажарнага заканадаўства не існавала, то ніякага цэнтралізаванага ўводу брандмуроў не было. Гэта маглі рабіць магістраты гарадоў самі па сабе.

Пасля далучэння да Расейскай імперыі паступова былі забыты прывілеі Вялікіх князёў, а ў 1840 годзе канчаткова перастаў дзейнічаць Статут ВКЛ. Гэта дало магчымасць мяшчанам зусім не выконваць супрацьпажарныя меры.

Пажар 23 жніўня 1842 года ў Лідзе ўзнік, менавіта, з-за перагрэву печы ў яўрэйскай лазні. *(У адпаведнасці з прывілеем Жыгімонта IV прыватныя лазні не дапускаліся, а агульная павінна была быць у баку ад горада).* Хоць пажары ў Лідзе здараліся і раней, але гэты быў значна буйнейшы. У выніку пажару згарэў касцёл піяраў, школьны двор, частка дамоў каля рынкавай плошчы і ўздоўж Віленскай вуліцы 43 дамы, паводле іншых звестак згарэла 80 яўрэйскіх дамоў і 40 хрысціянскіх, згарэла павятовая драўляная паштовая кантора.

7 кастрычніка 1891 года ў Лідзе здарыўся яшчэ больш грандыёзны пажар. Згарэла 3/5 горада, практычна ўся цэнтральная частка, каля 400 дамоў і каля 600 гаспадарчых пабудоваў.

Пасля гэтага пажару новая забудова Ліды ішла з улікам патрабаванняў пажарнай бяспекі Расейскай імперыі.

Як ужо было сказана спецыяльнага пажарнага заканадаўства ў Расейскай імперыі не было. Артыкулы аховы ад пажараў былі раскіданы па мноству розных законаў. Толькі ў 1914 годзе іх сабралі ў **"Сборникъ законовъ о противопожарныхъ мерахъ в Империи"**. Большага зрабіць не паспелі. "Згарэла" сама імперыя.

Парадак забудовы гарадоў Імперыі вызначаўся **"Городовым положением"** і будаўнічымі статутамі. Першы **"Строительный устав"** (папярэднік сучасных будаўнічых норм і правілаў быў апублікаваны ў 1832 годзе.

Пазней будаўнічыя статуты перавыдаваліся ў 1874, 1881, 1900 гадах.

Вытрымка з **"Устава стоительного…"** 1874 г.

***"Правілы аб прыватных будынках у гарадах".***

***Аддзяленне другое.***

***Аб правілах для прыватных пабудоваў у гарадах і аб адказнасці гаспадароў за парушэнне гэтых правілаў.***

**I. Аб правілах агульных для прыватных пабудоваў.**

352. Мураваную пабудову дазваляецца рабіць суцэльную без разрываў, з назіраннем толькі, каб на гарышчах у даху былі **брандмаўэры**, якія аддзяляюць дах ад суседняга, і каб на вялікіх дамах даўжынёю больш дванаццаці сажань было, гледзячы на прасторы, па некалькі **брандмаўэраў** на капітальных сценах.

*Заўвага 1. Пад брандмаўэрам разумеецца мураваная суцэльная сцяна без дзвярэй і вакон, якая некалькі перавышае страху дома…*

361. (на прац. 1863). Драўляныя пабудовы павінны быць размешчаны з захаваннем **чатырохсажневага разрыву *(8,5 м)* ад левай мяжы двара і двухсажневага разрыву ад задняй мяжы**. Жылыя і нежылыя драўляныя пабудовы акрамя фабрычных, павінны быць даўжынёю **не больш дванаццаці сажань.**

*Заўвага. Правілы,выкладзеныя ў гэтым артыкуле прыводзяцца ў выкананне паступова, толькі пры дазволе новых пабудоваў, і таму папраўка (рамонт) існых будынкаў, размешчаных без адпаведнасці гэтым правілам, не падпадае пад абмежаванні. Будаўніцтва драўляных будынкаў на мяжы ўладання, але з тым, каб пры гэтых будынках будаваліся **брандмаўэры** (арт. 352, заўв.1) да боку сумежнага ўладання, можа быць дазволена толькі ў кварталах існых; у кварталах жа новых, ці яшчэ незабудаваных, ці зусім выгараўшых, драўляныя пабудовы павінны будавацца з захаваннем правіла, выкладзенага ў гэтым артыкуле".*

У **"Статуце будаўнічым…"** 1881 года артыкул 352 перапісаны слова ў слова. Артыкул 361 таксама перапісаны, але ў заўвагу ўнесены дадатак:

***"… 1) Пабудова драўлянага дома раней за пабудову брандмаўэра, складае парушэнне статута будаўнічага.*** *(Раш. прым.нас.дэп.1867 г. №24, Бендэрскага).*

*2) Пры адсутнасці ў законе вызначэння таго, якой таўшчыні каменная сцяна прызначаецца **брандмаўэрам,** - пытанне гэтае, як тое, што патрабуе спецыяльных ведаў, павінна быць развязана судом не інакш, як пры ўдзеле экспертаў. (Раш.прым.нас.дэп., 1874 г., за № 572, Тагунова)".*

Артыкул 199 **"Статута будаўнічага…"** 1990 года слова ў слова паўтарае артыкул 361 папярэдніх статутаў. Заўвага паўторана са статута 1874 года.

***Забудова Ліды пасля пажару 1891 года ішла згодна з расейскімі будаўнічымі статутамі 1881 і 1900 гадоў.***

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Лідскі Летапісец

№ 2 (14) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2001 г.



Памяці Элаізы Пашкевіч

***Яшчэ перад выбарамі ў Лідзе выйшаў чарговы нумар часопіса "Лідскі летапісец". У часопісе: кроніка Ліды, Лідскі гістарычны каляндар, "Лідзяне 20-га стагоддзя - пералік найбольш выбітных людзей ў 20 намінацыях, чый лёс звязаны з Лідай; "Паслядоўнік Лінэя" - артыкул Антося Савука да 240 год з дня нараджэння С. Б. Юндзіла; "Лідзянка - сімвал прыгажосці ўсёй Польшчы" - артыкул пра Полю Раксу, актрысу, выканаўцу ролі Марусі Аганёк у фільме "Чатыры танкісты і сабака", ураджэнку Ліды; працяг артыкула Валерыя Сліўкіна "Хрысціянства на Лідчыне"; артыкул Станіслава Судніка "Лідскія брандмуры", падборка "Этнаграфічнае вывучэнне Лідчыны ў XIX - XX ст. ст., апісанне крыжа высокамастацкай кавальскай работы. Мы прапануем чытачам "Нашага слова" тэматычна свежы артыкул "Лідскія брандмуры".***





**Станіслаў Суднік**

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Быў выпадак, калі для партызанскага паходнага шпіталя спатрэбіліся бінты і лекі, бо было многа раненых і хворых. А. А. Некраш прапанаваў камандаванню смелы і рызыко-ны план. У мяст. Цімкавічы, што на Капыльшчыне, стаяла вайсковая частка, доктар якой сустракаўся з перакладчыцай камендатуры. А. А. Некраш павінен быў пранікнуць у дом перакладчыцы і дамовіцца аб дастаўцы партызанам медыкаментаў. Ён пераапрануўся ў форму нямецкага обер-лейтэнанта і накіраваўся ў цімкавіцкую залогу. Перакручваючы рускія словы, спытаў у вартавога, дзе жыве перакладчыца камендатуры. Яму паказалі. Калі ён зайшоў у дом, тая не здзівілася і спакойна спытала на нямецкай мове, што яму трэба.

- Я партызан, - адказаў Некраш, - нам неабходны медыкаменты. Калі вы не зможаце іх дастаць, я вымушаны буду забраць вас з сабой у аддзел, а доктару давядзецца выкупляць вас.

-Перакладчыца спачатку разгубілася, не ведала нават, што адказаць.

- Размаўляць нам няма калі, - працягваў Некраш, - сюды могуць прыйсці немцы, тады мы загінем удваіх.

Перакладчыца паабяцала зрабіць усё магчымае, абы яе не забілі. Праз тры дні перакладчыца паведаміла, што нямецкі доктар Ганс Віер зможа аказаць партызанам дапамогу. Сапраўды, хутка ў партызанскі аддзел былі дастаўлены дэфіцытныя медыкаменты, а сам доктар перайшоў на бок партызан.

Адась Некраш быў абраны членам Нясвіжскага падпольнага райкаму камсамолу. Нясвіжскі раённы райкам камсамолу прыступіў да працы 1 лістапада 1943 года. Сакратаром быў абраны Сямашка Міхаіл Фёдаравіч. Адам Адамавіч Некраш быў членам райкаму ад моманту стварэння, іншыя члены райкаму не вядомыя.

5 жніўня 1942 года ў Нясвіжскім раёне прайшоў заключны этап знішчэння польскіх грамадзян, у тым ліку практычна ўсіх ксяндзоў Нясвіжчыны. Акцыю праводзіла праваслаўная паліцыя. Гэта паспрыяла таму, што ў жывых застаўся нясвіжскі ксёндз Каласоўскі. Ксёндз Каласоўскі быў у сяброўскіх адносінах з нясвіжскім праваслаўным бацюшкам. Бацюшка давядаўся пра акцыю і не толькі папярэдзіў ксендза, а і схаваў яго ў сваёй хаце, чым ставіў пад удар усю сваю сям'ю. Паліцыянтам нехта падказаў, што Каласоўскі ў бацюшкі, але калі тыя з'явіліся да яго, бацюшка цвёрда заявіў, што ксендза ў яго няма. Трэсці бацюшку праваслаўная паліцыя не адважылася. Так і ацалеў ксёндз Каласоўскі і служыў у Нясвіжы да 80-х гадоў, хрысціў і мяне, і маіх сыноў. У глыбокай старасці быў адпраўлены на пенсію, што ў ксяндзоў бывае даволі рэдка. Быў пахаваны з вялікай пашанай пры ўдзеле шматлікага і высокага святарства.

А вось сейлавіцкі ксёндз Юзаф Дамінік не ацалеў і быў расстраляны 5 жніўня 1942 года ў Гайках (у лесе паміж вёскамі Малева і Еськавічы) і быў пахаваны там у брацкай магіле. Быў ён з 1903 года нараджэння. Усяго ў Гайках было расстраляна каля 83 чалавек. Але з Сейлавіч туды больш ніхто не трапіў.

Недзе ў 1943 годзе партызаны выбілі сям'ю мельніка і ўладальніка сейлавіцкага паравіка Салаўя.

У канцы 1943 ці пачатку 1944 года дайшла чарга да сейлавіцкага солтыса.

Солтыс, так называлася пасада старасты. Сама ж назва пасады "солтыс" сягае ў часы Вялікага княства Літоўскага. У тыя часы солтысамі называліся сялянскія суддзі. Солтысы выбіраліся. Як правіла солтысам выбіралі беднага шляхціца ці зажытачнага і талковага селяніна. Яго абавязкам было разбіраць спрэчкі і скаргі паміж сялянамі. Абавязкі солтыса пры немцах былі іншыя.

У Сейлавічах солтысам быў Юльян Навоша (Вайцюк). Жонка (другая) называлася Фядора. Солтыс жыў на хутары на Касцяневе. Хутар яго, наогул, стаяў блізка ад алешніку. Таму са з'яўленне партызанаў яго асабістая бяспека стала пытаннем нумар адзін. Солтыс служыў немцам не з-пад палкі, а, фактычна, дабраахвотна і старанна. Ён выдатна разумеў, што доўга не працягне, але ні ў Нясвіж, ні, нават, у Сейлавічы не перабіраўся. Адзінае, што рабіў, дык тое, што кожную ноч разам з жонкай начаваў у новым месцы. У тую ноч солтыс начаваў у Кастуся Хвіцькі. Але партызаны добра рыхтавалі аперацыю, мабыць сачылі яшчэ з вечара. Таму прыйшлі дакладна. Солтыс не паспеў ні выскачыць, ні схавацца. Фядора зашылася на палку ў анучы.

-- А яна дзе? -- спыталі партызаны.

-- Яе не было, -- адказала цётка Ганька.

Шукаць не сталі. Тут могуць быць два варыянты, або партызаны дакладна не дапільнавалі, альбо, што больш верагодна, не захацелі шукаць.

Солтысу накінулі на шыю вяроўку і павялі ў лес. Дакладна не магу сказаць - расстралялі ці павесілі. Фядора ацалела.

Мала верагодна, што па солтыса прыходзілі сейлаўцы. Паводле няпісанага закону без крайняй патрэбы сейлавіцкія партызаны ў Сейлавічы не хадзілі. Калі ішлі брацць жывёлу, то сейлавец мог весці, але па магчымасці на вочы гаспадару не паказваўся. Забіралі чужыя. Гэта рабілася, каб пазбегнуць прэтэнзій да сем'яў. Жывёлу бралі канкрэтна і выбарачна. Да маёй бабулі багаты швагер з Пасякоў прывёў прыхаваць адну карову, то доўга не пастаяла, прыйшлі і забралі. Разам з тым апошняга не бралі.

Пра характар той вайны сведчыць і такі факт. Недзе ў 1943 годзе партызаны значнай сілай вярталіся з-пад Нясвіжа з аперацыі цераз Касцянева і не паспелі прайсці засцемна ноччу. На Касцяневе яны аказаліся раніцай, калі ўжо павыганялі каровы. Каровы хадзілі і на поплаве каля вёскі, і на Касцяневе. Паліцыя была паднятая па трывозе і заняла абарону ўздоўж вёскі. Каровы аказаліся паміж паліцыяй і партызанамі. Людзі з вёскі набеглі да паліцыянтаў і давай прасіць, каб не стралялі, бо пераб'юць кароў. І што? І паліцыя не стала страляць. Партызаны пайшлі ў бок Куліка, паліцыя засталася ў вёсцы.

Не прайшла міма Сейлавіч і такая з'ява той вайны, як самаахова. Беларускую самаахову немцы пачалі ствараць летам 1942 года. Многія праваслаўныя сейлаўцы былі мабілізаваныя ў самаахову. У прыватнасці быў забраны Кастусь Хвіцька. Самаахоўцаў немцы трымалі некалькі месяцаў у Нясвіжы за калючым дротам, але зброю так і не выдалі, а неўзабаве распусцілі. Трэба сказаць, што пасля вайны тыя самаахоўцы, якія больш нікуды, скажам у паліцыю, не ўлезлі пад савецкія рэпрэсіі не папалі, прынамсі ў Сейлавічах.

14 студзеня 1944 года загінуў Станіслаў Некраш.

***Некраш Станіслаў Адамавіч**, трэці па старшынству з братоў Некрашаў.*

*Нарадзіўся вясной 1925 года. Закончыў 5 класаў Сейлавіцкай сямігодкі. З 30 студзеня 1943 года па 14 студзеня 1944 года быў шараговым партызанам у аддзеле ім. П. К. Панамарэнкі і ў аддзеле ім. М. А. Шчорса 27-й парт. брыгады ім. В. І. Чапаева. Часта хадзіў у выведку. 14 студзеня 1944 г. трапіў у засаду і загінуў у баі каля в. Лань Нясвіжскага р-на. Быў пахаваны ў Капыльскім раёне. Родныя перазахавалі на каталіцкіх могілках у Сейлавічах.*

У траўні 1944 года было вырашана стварыць польскую роту з тутэйшых католікаў. 24 траўня загадам № 26 такая рота была створана пры аддзеле імя П.К. Панамарэнкі брыгады імя В. І. Чапаева. Камандзірам роты быў прызначаны Адам Некраш, палітруком - Казімір Крыцкі, камандзірамі звязаў -- Пётр Барткевіч і Валянцін Высоцкі. Адасю Некрашу было прысвоена савецкае вайсковае званне лейтэнанта. У польскую роту ўвайшлі: акрамя Адама і Яна Некрашаў Тэлясфор і Станіслаў Невяроўскія, Мечыслаў і Ян Гладоўскія, усе з Сейлавіч, Валянцін і Антон Высоцкія, Альгерд і Альфрэд Харытановічы, Юры Каляда, Уладзімір Зантовіч, Зянон Лукашэвіч, Сітнік, Ян Суднік, Юльян Табіяш, Баляслаў Кабылінскі, Браніслаў Дамагала, Казімір Тарасевіч, Ян Рачкоўскі і інш.

4 чэрвеня 1944 г. польская рота ў складзе атрада імя П. К. Панамарэнкі прыняла ўдзел у разгроме паліцэйскай залогі ў в. Труханавічы пад Грэскам. У баі А. А. Некраш быў паранены. На першы погляд рана была не цяжкая. Куля трапіла ў сцягно. Але нягледзячы на ўсе намаганні партызанскага доктара, дацэнта Н.А.Жураўскай, выратаваць яму жыццё не ўдалося. Было Адасю Некрашу 24 гады.

Пасмяротна Адась Некраш быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Пахаваны быў у Капыльскім раёне, пасля вайны перазахаваны на каталіцкіх могілках у Сейлавічах.

Адась і Стась Некрашы былі пахаваны ў адной магіле. Іх бацька пахаваны асобна.

У 1987 годзе іх магілы наведаў былы жаўнер іхняй роты, кавалер ордэна Леніна а пазней генерал брані, камандуючы Вайскова-паветранымі сіламі Польскай Народнай Рэспублікі і Генеральны Консул Польшчы ў Менску Ян Рачкоўскі, сам родам з Нясвіжчыны. Станоўчы вынік прыезду Яна Рачкоўскага, што да могілак, да якіх праз усе 500 гадоў іхняга існавання не было дарогі, перад прыездам Рачкоўскага дарогу зрабілі за тры дні. У 90-я гады ўлад паставілі на магіле Некрашаў помнік (помнікі ад родных стаялі ад пачатку).



**Ян Рачкоўскі. Здымак ваеннай пары.**

Запомніўся прыезд Рачкоўскага ў Сейлавічы і вялікім клопатам раённых уладаў пра наш міжнародны прэстыж, каб усё было прыстойна. Але консулам Рачкоўскі быў толькі для ўладаў. Для партызанаў ён заставаўся Янкам. І калі падчас абеду на стале аказаўся балён з самагонкай, то і консул не адмовіўся ад тога "бімбару". Назаўтра гаспадар застолля Янак Гладоўскі, хоць і беспартыйны, але быў выкліканы "на кавёр" у райкам партыі. Але што ты зробіш партызану. Паўшчувалі ды адправілі дадому. Дарога да могілак засталася.

*(Працяг у наст. нумары.)*



**Брацкая магіла ў Гайках, дзе пахаваны сейлавіцкі ксёндз Юзаф Дамінік**




**Помнік Некрашам на Сейлавіцкіх каталіцкіх могілках**

Слухай сваё

# Яшчэ адзін позірк на музыку станоўчых эмоцыяў

*"Bez Bileta"*
*"На небе"*
*"BMAqronp" і інш.,*
*2001. Мн.*

"Ну што, пазнаеш брата Колю?" Гэты альбом абышоў усю беларускую прэсу яшчэ вясной 2001 года. Але тады была толькі касета, а цяпер з'явіўся нарэшце і кампакт-дыск – і адчуўся ў ім цалкам новы прадукт. Зменаў не гэтак і шмат, але вельмі істотныя.

Калі, скажам, касета выяўляла тыповых савецкіх інтэраў (роўненька, як паводле лукашэнкаўскага рэферэндуму: бок А – беларускі, бок В – расейскі), дык з'явіўся на СД адзін бонус, і цяпер з 12 трэкаў праграмы толькі тры з паловай аддаюць даніну каланіяльнай адміністрацыі. Такая вось арыфметыка.

Гэты бонус – унікальны набытак слухача ўжо сам па сабе. Усе мы чыталі пра еўрапейскія вандроўкі "Bez Bileta" па рок-фестывалях Еўропы (Італія, Галандыя, Польшча). Вынікам плённых творчых сустрэч і стаў студыйны jam-session нашай supernova з галяндскім "Red Liqht": у адной з студый Амстэрдама яны запісалі на польскай мове уласную песню "Пазітыўныя вібрацыі". Я слухаў гэты пяшчотны, прыгожы твор у замежных радыёратацыях і нават не спадзяваўся, што ён калі-небудзь трапіць у маю калекцыю. Я нават не ведаў назву фірмы, якая яго выдала, і ў якім фармаце (сінгл, альбом, кампіляцыя). Зусім арганічна ён упісаўся бонусам і ў альбом "На небе".

Сімпатычна, што яшчэ не азнаёмлены з гэтымі "Пазітыўнымі вібрацыямі", я так ахарактарызаваў музыку "Bez Bileta" 22.05.2001 у сваёй рэцэнзіі на іх канцэртах у "Народнай газеце": "Усё гэта можна назваць музыкай светлых пачуццяў".

Відаць, гэтак падалося і галяндцам, раз пайшлі на сумеснае стварэнне пазітыўных вібрацыяў, але...

Але лёгкая, светлая музыка "Bez Bileta" толькі знешне. Больш уважлівае праслухванне адкрывае ў ёй ўнутраную напругу, псіхадэлічны надлом з усмешкай на твары. Асабліва гэта датычыцца ранніх песень Віталя Артыста (музыка і тэкст) "Солнце на чердаке", "Лестница", "Верталёты". Прычым "Верталёты" – выразна трансцэндэнтны адрыў ад рэальнасці ў чатырохахвілінным інструментальным уступе, а потым поўны трагізму кароткі тэкст... (на касеце здавалася, што гэта дзве кампазіцыі).

Кампазітара настраёвага выяўляе на гэтым дыску і скрыпачка гурта Ксенія Мінчанка – і ў сольнай інструментальнай тэме "Споласк", і ў эйсыд-фолькавых замалёўках паводле народных запісаў "Валадар".

Піша музыку таксама флейтыстка і вакалістка Насця Кісялёва. Менавіта з ёй, сумуючы па радзіме ў Італіі, Віталь Артыст стварыў несмяротны гіт беларускага брыт-попа "Мая краіна Беларусь". Дый менавіта іх абодвух натхніў адзін з тэкстаў фальклорных зборнікаў – "Пад ялінаю". А верш А. Бацюкова з купалаўскай "Нашай нівы" – яна меладычна апрацавала сама. І як апрацавала! Жыве беларускі эйсыд-фольк! Жыве Беларусь! Бо туды ж удала ўпісаўся і С. Бакавец з сваім разумменнем славутай Багдановічавай "Свячы".

Мне спачатку здавалася (паводле канцэртаў, касетных выданняў), што беларускамоўным "Bez Bileta" можа быць толькі ў прыфальказваных творах, асэнсоўваючы сучаснасць толькі, як здрадніку навучылі, – па-расейску. Але цікавы беларускі інтэрнацыянал выяўляе кампазіцыя "Прывітанне" на вершы С. Жарава. Над музыкай працавалі ўсе ўдзельнікі гурта: згаданыя Віталь Артыст (вакал, гітара, флейта), Насця Кісялёва (флейта, вакал), Ксенія Мінчанка (скрыпка, флейта, тамбурын, вакал), Сяргей Бакавец (гітара, вакал), а таксама басіст Алег Русак ды бубнач Яўген Вайткевіч. Анрымаўся дынамічны брыт-поп, звернуты да ўсіх, але выразна – ад імя беларусаў:

*Прывітаньне, славяне:*
*драўляне, паланяне,*
*Крывічы, мікулічы,*
*радзімічы, ліцьвяне,*
*Зямляне,*
*а таксама іншапланецяне*
*Ды іншыя...*

Багатая і ўзнёслая знешняя аздоба выдання цудоўна пасуе гэткай жа каларытнай і ўзнёслай музыцы, хоць мачкова-канапельныя інтанацыі прасочваюцца і ў кампутарным дызайне Тацціны Гамзы, і ў кампазіцыях "Bez Bileta". Але факт: узвышэнне слухача "На Неба" адбываецца. Дык не бяды, калі найноўшы CD гурта "Bez Bileta" стане для маладога слухача, як спяваў гурт "Lady Pank",

*Moja muzyka –*
*moj narkotyk.*

Калі гаварыць аб няшкодных наркотыках, дык толькі музыка "Bez Bileta" (ці ўвогуле ўлюбёная музыка) такім і ёсць.

*Вітаўт Мартыненка.*

### Паважаная рэдакцыя!

Хацелася б выказаць некалькі меркаванняў аб "Вясковых кавнцэртах Алена" (НС №37). Сама па сабе гэтая з'ява заслугоўвае ўсялякага адабрэння і падтрымкі, хоць на маю думку варта было б выконваць не толькі аўтарскія песні; шмат іх было і, на вялікі жаль, забыта цэлая эпоха ад Забэйды-Суміцкага да Данчыка. Дарэчы, "Ален" неяк не стасуецца з беларускасцю, такі псеўданім хутчэй падыходзіў бы Данчыку, грамадзяніну ЗША.

Неяк пачуў гісторыю стварэння песні "Алеся" і падумаў, што такія песні і такія экскурсы ў гісторыю былі б памятныя вясковым слухачам.

Мяне ж у артыкуле крыху бянтэжыць вось што. Выразы з словамі "халуі", "хеўра", "абалваньванне" наўрад ці прыйдуцца да спадобы тым, ад каго залежыць дазвол на канцэрты. У "НС", мяркую, ёсць зацікаўлены і ўважлівы чытач у КДБ, ён падкажа мясцовым уладам, як пазбавіцца ад супраціўнікаў рэжыму. Баюся, што новыя канцэрты Алена будуць пад пытаннем пасля такой "рэкламы". Варта грубасці уладных чыноўнікаў, дзе яна праяўляецца, супрацьпаставіць цывілізаваную апазіцыйнасць.

*З павагай А. Пракоф'еў.*
3. 10. 2001 г.

# Яны працавалі на Беларусь

***Колькі ёсць гістарычных сведчанняў, што прадстаўнікі іншых народаў не толькі жылі ў нашым краі, але і мелі самыя непасрэдныя стасункі з нашай літаратурай, культурай ды навукай.***

***Сваёй творчасцю яны яскрава сведчылі, што беларусы – асобная нацыя. Яе трэба даследаваць, вывучаць, як і іншыя.***

### Музыкай узнёс Купалу (да 130 годдзя з дня нараджэння Людаміра Міхала Рагоўскага)

Вільня. 12 лютага 1910 года. Першая беларуская вечарына, якая адбылася ў мясцовым клубе чыгуначнікаў. Выконваецца харавы твор Янкі Купалы "Чаму ж мне не пець" ды і іншыя беларускія песні. Дырыгуе Людамір Рагоўскі. Вось як распавядае аб гэтым адна са знакамітых беларускіх акторак Паўліна Мядзёлка: "Народу была такая процьма, што я ледзьве праціснулася да свайго крэсла на правым балконе непадалёку ад сцэны..." Трэці званок. Рассоўваецца заслона. На сцэне сярод дэкарацый лесу, вялікі хор у беларускіх нацыянальных касцюмах... Выходзіць у чорным фраку кіраўнік хору кампазітар Рагоўскі. Уздымае рукі і...

*-- А хто там ідзе...*
*У агромістай*
*такой грамадзе?*
*-- Беларусы.*

Пры першых магутных урачыстых гуках гэтай песні, напісанай кампазітарам Рагоўскім на словы Янкі Купалы, уся зала затаіла дых... У зале пачуўся ўздых, адзін магутны ўздых з соцень грудзей... Здавалася нават сцены ўздыхнулі.

Вось так Купалаўскія "беларусы" на музыку Рагоўскага выйшлі ў свет, каб "людзьмі звацца" ды крочыць і зараз.

Польскі дырыжор і кампазітар Людамір Міхаіл Рагоўскі нарадзіўся 3 кастрычніка 1881 года ў Люблiне. У 1906 годзе скончыў Варшаўскую кансерваторыю ды пачаў працаваць у Вільні. Тут пазнаёміўся з прадстаўнікамі першай хвалі беларускага Адраджэння і надалей яго творчасць мае цесную сувязь з беларускай музычнай культурай: прымае самы актыўны ўдзел у рабоце Беларускага музычна-драматычнага гуртка.

З 1909 па 1913 годы Рагоўскі стварае музычнае афармленне да спектакляў першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага. Сярод іншага кампазітар складае "Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў", куды ўключае і свае апрацоўкі беларускіх народных песень.

Ён таксама напісаў Беларускую сюіту для сімфанічнага аркестра.

Першая сусветная вайна, а за ёю яшчэ шэраг лакальных войнаў унеслі свае карэктывы ў шчасцівы лёс кампазітара. З 1926 года ён жыве ў Югаслаўскім горадзе Дуброўніку.

Зайздросны плён у гэтага кампазітара. Яму належыць 7 сімфоній, 6 опер, 12 балетаў (дарэчы, адзін з іх *Купала* быў пастаўлены ў 1926 годзе ў Варшаве), шмат камерных, харавых і іншых твораў.

Памёр Ладамір Рагоўскі 14 сакавіка 1954 года.

*Я. П.*

### Беларусь і Францішак Карпінскі. 260 гадоў са дня нараджэння

Іншы раз проста дзіву даешся, як усё пераблытана ў беларуска-польска-украінскім памежжы. Творца нараджаецца на адной зямлі, жыве ў другой, працуе на культуру трэцяга народа. Гэтая з'ява тут стала нормаю. Прыклад таму Францішак Карпінскі. Польскі паэт, адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму. Ён нарадзіўся 4 кастрычніка 1741 года на Украіне. Адукацыю набыў у езуіцкай акадэміі ў Львове. Надалей у 1780 годзе пасяляецца ў Варшаве. У 1781-1782 гадах наведвае Гародню і Вільню. Пачынаючы з 1793 года і на працягу наступных 30 гадоў арандуе розныя фальваркі на Гарадзеншчыне і Пружаншчыне. Так у 1819 годзе набыў фальварак Хораўшчына ў Ваўкавыскім павеце. Тут адчыняе школу і вучыць дзяцей сялян пісьменству. Акрамя гэтага Карпінскі гаспадарыць на сваім участку зямлі, разам з хораўскімі сялянамі працуе ў полі. Тут сяляне спяваюць свае песні, расказваюць казкі, а Францішак стараецца пранікнуць у свет народнай творчасці. Ён даволі часта бывае ў Свіслацкай гімназіі. Яшчэ у 1806 годзе падараваў гэтай навучальнай установе сваю бібліятэку.

З Карпінскім падтрымлівае сяброўскія сувязі перакладчык "Інкаў" М. Марманэле С. Клокацкі. А таксама віленскі астраном Т. Пачобут-Адленіцкі, І. Храптовіч, К. Хадкевіч, І. Кулакоўскі, пісьменнік і перакладчык І. Я. Быкоўскі, віцебнянін Ф. Кузьмін, прадстаўнік сентыменталізму. У гэты час Францішак Карпінскі шмат піша і выдае. Пабачыла свет кніжка "Забаўкі вершам і прозаю". У Горадні выходзяць "Вяртанне з Варшавы ў вёску", "Размова Платона са сваімі вучнямі". У аўтабіяграфічных "Дзённіках", якія вытрымалі аж 6 выданняў паэт апісвае тагачаснае жыццё на Беларусі. У камедыі "Чынш" Карпінскі заклікае да вызвалення сялянаў ад паншчыны. Беларуская тэма адлюстравана шмат у якіх яго творах. Матывы фальклору сфарманы ў творах "Падарожжа па зачараванай краіне", "Свецкія песні". Творчая палітра Карпінскага шырокая. Пісаў псалмы народнага тыпу, ідыліі, абразкі, лірычныя вершы. Зрабіў шмат перакладаў. Адчуваецца яго ўплыў на творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. Францішак Карпінскі меў багаты архіў. Быў ён у К. Прозара ў Хойніках, потым часткова захоўваўся ў А. Ельскага ў Замосці (зараз населены пункт Пухавіцкага раёна). І таму нездарма і сёння зберагаецца ў Варшаве ў Цэнтральным архіве старажытных актаў фонд Прозараў і Ельскіх.

Памёр Францішак Карпінскі 16 верасня 1825 года і пахаваны ў Лыскаве Пружанскага раёна.

*Я. П.*

**1 лістапада ў ДК БелОГ (Уральская,3) адбудзецца прэзентацыя альбома легенды беларускай бардаўскай песні Сяржука Сокалава-Воюша "Нефармальны Беларус". Пачатак 19.00. Кошт квітка ад 1000 да 3000 руб.**

**5 лістапада ў ДК МТЗ (ст. метро Трактарны завод) адбудзеца сольны акустычны канцэрт культавай каманды N.R.M. Пачатак 19.00. Кошт квітка ад 3000 да 10 000 руб. Набыўшым квіток за 10 000 – падарунак майка з сімволікай NRM.**

Сувязь з арганізатарамі:
**8-0296-490888, 2118585 (аб. БМА)**

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 10. 2001 г.
Наклад 3750 асобнікаў. Замова № 2290.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
*Кошт у розніцу:* 80 руб.